№ 47. Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 47 (139). Год II. Вільня, 12 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Польшча. Абстрэл Пецярбурга?

## 11 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Пры Н'юпорці і на ўсходзі ад Іпра пад вечар крапчэў агонь.

На ўсходзі ад Вітчэта і Мэссіна агонь гэтак сама крапчэў. Англіцкіе наступленьня на заходзі ад Гольбэг і Вамбэг адбіты. На поўначы ад Дув адбіты ў вечары атакі англічан.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам мы ўварваліся у францускіе акопы і перэбілі ды ўзялі ў палон быўшых тамака французоў.

**На усходнім тэатры і македонскім фронці — без перамен.**

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг прыватных вестак с Пецярбурга ваенные параходы стаяўшага у Кронштаці флоту **АБСТРЭЛІВАЛІ ПЕЦЯРБУРГ.**

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга:

Групы матросаў с Кронштадту паехалі у Ораніэнбаум, каб падбіць тамтэйшы гарнізон далучыцца да кронштацкаго руху.

У Пецярбургі пачаліся пажары з невядомых прычын. Чэрнь вінаваціць у падпале заможные станы. Спроба граміць заможных людзей неўдалася.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга, што у гэтым тыдні ждуць новай перамены ураду. У Пецярбургі сабралі вялікае число верных войск, каб прыпыніць дамаганьня крайніх партый. Масква ўжо бытцым-то прыхільна.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). «Русск. Воля» даносіць з асьведомленай крыніцы, што прыезд расейскіх эмігрантоў з нэутральных старон у Расею цераз Нямеччыну забаронен на моцы закона, што асобы, быўшые ў часі вайны ў варожай старане, ня могуць ступіць на расейскую зямлю без кантролю і сыледатва.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Учора пачаліся выбары ў местовую думу—першы раз у Расеі на аснові агульнай падачы галасоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы урад зацьвярдзіў апрацаваны міністрам судоў праект закона **проці дэзэртэроў**. Апрыч паказаных у законі кар, дэзэртэры губляюць права выбіраць у устаноўчы сэйм. Пытаньне, ці яны губляюць і права на зямлю пры развязцы зямельнай справы, развяжэ установчы сэйм. Сем'і дэзэртэроў ня будуць атрымліваць месячнай падмогі датуль, пакуль дэзэртэры ня вернуцца ў свае часьці.

ШТОКГОЛЬМ. Просьба аб адстаўцы генэрала Драгомірова, глаўнакамандуючаго паўночна - заходнім фронтам, ня прынята.

БЭРН. «Petit Parisien» даносіць с Пецярбурга, што нарады работнікоў донецкаго округа с прадстаўнікамі ураду нічога не дайшлі. Угода аказалася немагчымай. Новая камісія разгледзіць варункі працы на Данцу.

АПАРАНДА. У паўночнай Фінляндіі пануе праўдзівы голад. У цэлых округах больш зусім німа збожжа. Бедные людзі пачалі пячы хлеб з млетай кары.

ВАРШАВА. Учора на заседаньні тымчасовай дзержаўнай рады дадзен адказ нямецкаго і аўстрыяцкаго ураду на мэмор'ял дзержаўнай рады с 1 мая:

1. Жаданьне назначэньня рэгента для польскай дзержавы згодліво с плянамі цэнтральных дзержаў і будзе споўнено, як толькі наладзіцца варункі дзеля карыснай працы рэгента.

2. Цэнтральные дзержавы бачуць ужо цяпер у тымчасовай дзержаўнай радзі прадстаўніка творэнаго польскаго гасударства і ждуць, што яна чым хутчэй закончыць свае падгатавіцельные работы дзеля устанаўленьня конституціі і упраўленьня.

3. Цэнтральные дзержавы разам с тым звертаюцца да дзержаўнай рады с прадлажэньнем апрацаваць асобные праекты, як магла-бы адбыцца перэдача асобных галін упраўленьня польскай цэнтральнай уласьці (міністэрствам) бяз шкоды для тэй пазыцыі, якая прыналежыць окупацыйным дзержавам паводлуг міжнароднаго права, і якім способам можна было-бы пакрыць выдаткі гэтых галін упраўленьня.

Далей цэнтральные дзержавы ждуць, што дзержаўная рада назаве асобу, каторай можна было-бы аддаць найвышэйшую уласць над перэдаванымі Польскай дзержаве галінамі упраўленьня.

Урад думае, што пры выбары прадседацеля увагу тымчасовай дзержаўнай рады перш за ўсё зверне на сябе каронны маршалак.

РЫМ (Стэфані). Яніна занята італьянскім войскам.

Грэція падасць проці гэтаго пратэст.

БЭРЛІН (В. Т. Б.). **Урадова.** У Атлянтыцкім акіяні нашы падводные лодкі ізноў затапілі 19.600 тонн.

БЭРН. Сэкрэтар англіцкай работніцкай лігі піша ў „Times“:

„Організованы Макдональдам рух у Лідсе да ладжэньня рад работнікоў і салдатоў—вельмі сур'ёзны. Рух гэты грозіць англіцкай солідарнасьці і еднасьці англіцкіх работнікоў. Кіраўнікі руху стараюцца выкарыстаць незадавольство работнікоў, матросаў і салдатоў дзеля рэволюцыйных мэт“.

*Вільня, 12 чэрвеня.*

Пасьля таго, як цар Мікалай быў скінут с трону, а стары лад разбіт да самых асноў сваіх, гасударственая уласць у Расеі перэйшла **офіцыяльна** ў рукі лібэральна - буржуазыйнаго міністэрства. Але **толькі** офіцыяльна: бо побач з габінэтам міністроў утварылося так званае „рабочнае правіцельство“—рада работнікоў і салдатоў. І хаця ўсе загады і пастановы падпісывало і абвешчало міністэрство, яно ад самаго пачатку апынулося пад срогім кантролем работніцкай рады і бяз згоды апошняй не магло рабіць ніводнаго болей-меней сур'ёзнаго кроку.

Сіла, якой дайшла рада работнікоў і салдатоў у Пецярбурзі, а так сама мейсцовые работніцкіе рады на правінціі, паказваець вельмі ясна, якое мейсцо ў жыцьці рэволюцыйнай Расеі занялі рабочые массы. Дый іначай быць не магло: рэволюція была зроблена рукамі народу—часьцю астаўшагося дома, пры рабоці, часьцю „аружнаго народу“, адзетаго ў салдацкіе шынелі. Паводлуг гэтаго скора пасьля перэвароту быў перастроен і офіцыяльны урад: у міністэрство ўвайшлі работніцкіе прадстаўнікі—міністры соцыялісты, дый, судзячы паводлуг тэлеграм з Расеі, можна спадзевацца устанаўленьня чыста соцыялістычнаго правіцельства.

Гэткіе вялікіе заваеваньня рабочаго народу ў Расеі знайшлі адгалосак і ў другіх старонах, а перш за ўсё у Англіі. Мы ўжо пісалі, што тамака, па прыкладу Расеі, організуюцца рады работнікоў і салдатоў, каторые маюць на мэці змагацца проці вайны, імпэрыялізму і капіталізму. А гэта — знак, што і у Англіі наступае момэнт вострай барацьбы між мірна настроеным пролетарыятам і ваяўнічай буржуазіей, каторая вядзе вайну адно толькі дзеля ўмацаваньня свайго экономічнаго панаваньня ня толькі ў сваей старане, але і далёка за яе межамі— чуць не па ўсім сьвеці.

Угледаючыся далей на тое, што робіцца цяпер у Франціі (забастовачны рух) і іншых старонах, мы можам наперад сказаць, што сусьветная вайна пакіне вельмі глыбокі след ва ўсіх сучасных грамадзянствах: клясовае змаганьне, каторае дагэтуль выяўлялося перэважна ў мейсцовых экономічных забастоўках, рэдка прынімаўшых шырокіе размеры, павінно выявіцца болей шырока, а ў аснові яго будзе лежаць барацьба за уласць.

## Палітыка „вольнай рукі.“

Мы ўжо не раз адзначывалі, што тутэйшые палякі стараліся заўсёды разбіваць еднасьць жыхароў краю. Самым яркім прыкладам можэ служыць факт разбіцьця Віленска-Ковенскаго Грамадзянскаго Камітэту. Ведалі палякі, што яны рабілі і што робяць: ідучы разам з другімі нацыональнасьцямі краю, яны былі прымушэны агледацца на агульны голас тутэйшаго грамадзянства, каторы бараніў і бароніць справы большасьці жыхароў. Палякі ж, становячы меншасьць, ідуць сваей асобнай дарогай, бо іх цікавяць не справы нашаго краю, а толькі справы Польскаго Каралеўства. Вось, каб іх не звязывала агульна-краёвая солідарнасьць, яны аддзяліліся ад усіх іншых нацыональных груп і павялі палітыку «вольнай рукі».

Нам давялося пазнаёміцца з найнавейшай праявай гэтай палітыкі. 44 прадстаўнікі ўсіх кірункоў палітычнай думкі польскай у Літве паслалі нямецкаму Імперскаму Канцлеру мэмор'ял, даводзячы, што наш край у межах цяперашняй окупаціі павінен быць далучэн да Польшчы.

Выступленьне гэтае—ня новае. Да яго палякі прыгатаўляліся даўно—ад самаго прыходу немцоў. Тады быў кінут кліч: «за ўселякую цану трэба прыдаць Вільні і ўсяму краю польскі характэр!», і у гэтым кірунку, маючы ў сваіх руках аграмадные суммы грошы і с паддзержкай вышэйшаго духавенства, палякі працавалі з вялікай энэргіей. Рэзультатам гэтай працы былі статыстычные данные, каторые «знайшлі» ў нас гэтулькі «палякоў», што перад вайной ніхто з іх аб падобных цыфрах і думаць не асьмеліваўся! У «палякі» аказываліся запісанымі нават акуратные маскалі—праваслаўные, не кажучы аб каталіках беларусах...

Апіраючыся на такіх «данных», аўторы мэмор'ялу стараюцца давясьці нямецкай імперскай уласьці, што «край, узяты, як цэласць, становіць этнографічна - мешаны абшар. Ні адна з нацыональнасьцей краю чыслом сваім абсолютнай перэвагі не мае, ні адна ня можэ лічыцца за ядыную прадстаўніцу краю цэлком ці нават часьці яго, значыць, і літвіны, ня гледячы на сваё імя, не маюць большых правоў на Літву, чым палякі або беларусы».

Апошняя фраза для нас, беларусоў, дужа цікава: палякі, каторые спярша ў сваіх чысленых выступленьнях стараліся давясьці, бытцым беларусоў ніякіх тут німа, урэшці офіцыяльна стаўля-

юць сябе на роўных правох з беларусамі. І мы бы папраўдзі цешыліся з гэткаго «поступу», каб ня тое, што іх папярэдзілі ў тым... нямецкіе ўласьці, прызнаўшы за беларусамі ўсе нацыональные правы, з якіх карыстаюць іншые народы! Але ня ў тым глаўная справа.

Глаўнае—тое, што палякі, прызнаўшы ўсе народы краю роўнапраўнымі гаварыць аб будучыне краю, павінны былі-бы аб долі яго згаварыцца са сваімі тутэйшымі землякамі другіх нацыональнасьцей. Але гэтаго зусім лёгічнаго кроку яны не зрабілі, ды гэтак пайшлі супроць усіх жыхароў Літвы.

Мэмор'ял свае дамаганьня далучэньня нашай зямлі да Польшчы тлумачыць тым, што таго вымагаюць інтэрэсы тутэйшых палякоў. З гэтай прычыны нас вельмі здзівіло тое, што ў чысьле падпісаўшых мэмор'ял мы знайшлі імя адміністратара віленскай дыэцэзіі, кс. Міхалькевіча, і пяці іншых каталіцкіх ксяндзоў побач с кальвінскім ксяндзом. Гэтымі сваімі подпісамі яны паказалі, што яны дбаюць аб інтэрэсы толькі тых верных, каторые называюць сябе палякамі, і зусім не ўважаюць на патрэбы і жаданьня іншых нацыональнасьцей. А колькі разоў з вуст кс. Міхалькевіча мы чулі заверэньня, што для яго німа ні паляка, ні беларуса, ні літвіна, а ўсе роўны, як сыны касьцёла каталіцкаго... Мала таго: з вуст тагож кс. Міхалькевіча мы чулі, што ён палітыкай не занімаецца, што завядзеньне беларускай мовы ў касьцелі і школі ён лічыць за палітыку і ня можэ на гэта прыстаць затым, што гэта была бы здрада расейскаго ураду, каторы яго дагэтуль ня звольніў ад падданства і прысягі на вернасць...

Мэмор'ял — гэта апошні крок польскай палітыкі «вольнай рукі». Цяпер ужо ад польскаго грамадзянства ўсіх кірункоў палітычнай мысьлі мы нічога неспадзеванаго ждаць ня можэм: яно высказалося да канца! Лічым патрэбным адзначыць толькі адно: што мэмор'ял гэты—ня болей і ня меней, як адгалосак пастановы польскаго парлямэнцкаго кола у Вені, каторае прыняло рэзолюцію, каб Польшча атрымала вольны выхад да мора. А дарога да мора йдзе як раз цераз наш край, — і вось тутэйшае польскае грамадзянства на знак з Галічыны праз Варшаву і выступіло з дамаганьнем, каб над тэй дарогай запанавало Польскае Каралеўство...

*І. Мелешка.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Імя беларусоў і Беларусі па нямецку.** Офіцыоз Глаўнакамандуючаго на Ўсходзі, Korrespondenz B., даносіць, што у офіцыальнай тэрмінолёгіі адгэтуль беларусоў будуць называць «Weissruthenen», а Беларусь — «Weissruthenien». Гэтак надрукаваная намі у № 43 «Гомана» вестка, што гэта мае быць загадано, збылася.

× **Устанаўленьне цэн.** Дзеля больш роўнамернаго складу камісіі дзеля устанаўленьня цэн да яе прынят рад беларусоў, літвіноў і праваслаўных.

Гаспадары крам прызываюцца ешчэ раз на ўсіх выстаўленых у вакне таварах пісаць цэну. За неспаўненьне гэтаго іх будуць караць.

× **Народные страўні.** Наплыў людзей у віленскіе народные страўні — надта вялікі. У адных толькі хрысьціянскіх страўнях кожын дзень выдаюць больш за 20.000 порцій.

× **Прадажа капчонай рыбы.** На рыбны рынак цяпер акуратна дастаўляюць капчоную рыбу дзеля прадажы людзям.

× **Выдача пашпартоў Об. Ост.** Асобы, якіе жывуць у 7, 8 і 9 міліцыйных цыркулах і з якой-будзь прычыны дагэтуль не маюць пашпарту Об. Ост, павінны ўраз-жэ явіцца ў бюро сваёго міліцыйнаго цыркулу (7 цыркул—Гарбарская 5, 8 цыркул—Орэнбурская 5 і 9 цыркул—Вясёлая 9), каб атрымаць тамака пашпарт.

× **Скорая помач** ад 28. V да 3. VI дадзена ў 93 прыпадках. Карэтка выежджала 54 разы.

× **Хто маці?** 14 мая каля касьцёла сьв Юра знайшлі дзяўчынку с картачкай, на якой напісано імя Стэфанія Войшуніс.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 6— 7 | + 18° | + 7° |
| 7— 8 | + 15° | + 4° |
| 8— 9 | + 19,8° | + 10° |
| 9—10 | + 24° | + 10° |

# Офіцыальны аддзел.

## Апавешчэньне.

П. Глаўнакамандуючый 10 арміей за мінулый месяц налажыў гэткіе контрыбуціі на ніжэйпісаные грамады у этапных межах:

1. на грамаду Відгіры, Владыславоўск. пав., за тое, што члены грамады дапусьцілі, што нямецкі ваенны ў межах грамады быў у белы дзень застрэлен бандай, — 4.000 м.

2. на грамаду Тавтучы, Росс'енскаго пав., за тое, што, ня гледзячы на забарону, у грамадзе хаваліся ўцёкшые быўшые расейскіе ваенные ад часу збору с палёў 1915 году да сьнежня 1916 г., — 711 м.

3. на грамаду Тібы, Сэйнэнск. пав., за тое, што ў гэтай грамадзе быў сумысьля знішчэн тэлеграф і каменьнямі разбіты 24 ізолятары, — 500 м.

4. на грамаду Кібарты, Мар'ямпольскаго пав., за тое, што ў Кібартах доўгі час хаваліся расейскіе ваенна палонные і грамада аб гэтым не данесла нямецкай уласьці, — 217 м.

Е. Н. О. 1 чэрвеня 1917 году.

Der Etappen-Inspekteur
**v. Trotta,**
Generalleutnant.

# З усяго Краю.

**Валюта у Обэр Ост.**

Паводлуг загаду, для ўсіх умоў і выплат мае сілу валюта ў марках. Так-званые «нямецкіе рублі» адгэтуль маюць нязменны курс 2 м., незалежне ад курсу расейскаго рубля. Хто на гэта не прыстае, павінен не пазьней, як 1 кастрычніка гэтаго году, злажыць у сваей паветовай кассе «нямецкіе рублі», як дэпозыт, за каторы плаціцімуць 4%. Калі «нямецкіе рублі» будуць касаваць, дэпозыты гэтые разам с працэнтамі будуць, на жаданьне, выплачэны расейскімі рублямі.

**Змена граніц паветоў.**

Па загаду Глаўнакамандуючаго на Ўсходзі с 14 мая зменены граніцы між Віленскім сельскім паветам і паветам Кошэдарскім, Віленскім і Оліцкім, Оліцкім і Кошэдарскім. Модэстово адгэтуль належыць да Кошэдарскаго павету.

БЕЛАСТОК. «Presse-Abteilung» пры Глаўнакамандуючым на Ўсходзі выдало ў нямецкай мові кніжку пад загалоўкам: «Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in Kurland, Litauen und Weissruthenien» («Край Обэр Ост. Нямецкая праца ў Курляндіі, Літве і Беларусі») 400 страніц, 16 фотографічных знімкоў і 3 карты. Цэна 6 м.

РОГОТНА. Палевы суд 25 мая г. г. засудзіў уцёкшаго с палону расейца Івана Хмарнаго за нашэньне пры сабе аружжа, цывільную опратку, цяжкіе крадзежы, рад разбойніцкіх вымог і дзьве спробы душэгубства — **на сьмерць** і 12 гадоў у папраўчы вастрог, а расейскіх ваенна-палонных Івана Сараева, Андрэя Пенсова і Нікіфора Макейчэва за нашэньне цывільнай опраткі і цяжкіе крадзежы — кожнаго на 5 гадоў у папраўчы дом.

Кара сьмерці над Іванам Хмарным споўнена 25 мая, ў дзень суда.

ЛЕОНОВІЧЫ. Селянін Александар Громодзкі за укрываньне расейскіх ваенных і незаяўленьне аб іх бытнасьці засуджэн на 3 гады 6 мес. у папраўчы вастрог.

ЛІБАВА. Ня гледзячы на вайну, тутэйшые купаньня ў моры прыцягіваюць многа народу. Дзякуючы таму, што ў ваколіцах Лібавы ў морэ не ўліваецца ні адна вялікшая рэка, вада тут вельмі салёная, і ў ей солі 0,7%. Другіе выгоды Лібавы — гэта сільнае хвалеваньне, каторае заменяе массаж, і чыстае дно с пяску. Курорт занімае 19 дзесяцін.

# З усяго сьвету.

НІКАРАҐУА (Рэўтэр). Сталічнае место **Сан-Сальвадор знішчэно трасеньнем зямлі.** Зруйновано ешчэ **6 іншых мест.** У ваколіцах на 40 міль навакол усё зруйновано.

# Нашы песьняры.

**4. Максім Богдановіч.**

Колас, Купала, Цішка Гартны і доўгі рад чысьленых імён сучасных беларускіх паэтоў—гэта ўсё прэдстаўнікі *першаго пакаленьня народнай інтэлігенціі.* Гэта—сыны народу, узраставшые ў мужыцкай хаці, і ўсе яны безпасрэдна выяўляюць народную душу. Іх творчэство—найбольш несьвядомае, «з волі Божай». Тэмы і матэр'ялы для іх артыстычных твораў—гэта перэжываньня і думкі, якімі жыве масса, гэта — тое, што акружало іх змалку дзён, чым перапоўнены іх мысьлі і сэрцы, што становіць інтэгральную часць іх душы. Сьляды гэтаго можна заўважыць нават і тады, калі—ў меру развіцьця свайго — гэтые народные песьняры даходзяць сьвядомасьці сваей індывідуальнасьці, калі апаноўваюць сваю творчасць.

Зусім асобнае мейсцо ў новай беларускай паэзіі занімае Максім Богдановіч. Гэта ўжо інтэлігент у шырокім значэньні слова. Гэта—артыста, каторы ад самаго пачатку ідзе сьвядома сваей дарогай, паэт-індывідуаліст, раўнуючы да ўсей грамады народных песьняроў.

Максім Богдановіч радзіўся ў 1892 гаду у Гродзеншчыне, дзе яго бацька быў народным вучыцелем. Калі нашаму песьняру было ўсяго 2 гады, сем'я Богдановічоў перэбралася ў Расею—ў Ніжні Ноўгарад. Гэтак ад малых гадоў Максім рос у далёкай чужыне і не бачыў сваей Бацькаўшчыны, аб каторай чуў адно толькі ад бацькі, чэлавека інтэлігентнаго і шчыра любіўшаго родны Край, хаця ужываўшаго дома расейскай мовы. Як апаведаў Максім Богдановіч, гэтая далёкая, незнаная Бацькаўшчына-Беларусь неяк дзіўна чаравала яго і вабіла к сабе ад таго часу, як ён пачаў жыць сьвядомым жыцьцём: самае імя яе будзіло ў душы паэта дзіўны стан, і здавалося яму, што вось-вось брызнуць сълёзы з яго вачэй. Ужо будучы у старшых клясах гімназіі, ён неяк дастаў колькі беларускіх кніжак. І гэта вызвало ў ім становучы паварот: ён збудзіўся нацыональна, і праца дзеля свайго далёкаго, цёмнаго, забытаго ўсімі народу сталася глаўнай мэтай яго жыцьця. Скора навучыўшыся тэорэтычна—с кніжак і газэт—беларускай мовы, ён пачынае пісаць па беларуску вершы, каторые шлець у Вільню—ў рэдакцію «Нашай Нівы». Тут аказаліся людзі, зразу аценіўшые паэтыцкі талент Богдановіча. У завязаўшайся перапісцы малады паэт знайшоў паддзержку ў сваей працы і з узрастаючай верай у карысць сваей літэратурнай работы даваў усё новые і новые творы.

Узгадаваны на прымерніках найлепшых твораў сусьветнай літэратуры, с каторымі ешчэ ў гімназіі, а пасьля ў увівэрсытэці знаёміўся найбольш у орыгіналах, Богдановіч мае незвычайна сільнае пачуцьцё красы, гармоніі. З гэтай прычыны кожын з яго вершоў, найчасьцей зусім кароценькіх, адзначываецца бязспорна артыстычнай формай: гэта—пэрлы беларускай паэзіі. Калі Купала сваімі творамі вельмі узбагаціў беларускі слоўнік, дык заслуга Богдановіча—прысваеньне беларусам новых для іх форм верша. Побач с чысьленымі соннэтамі, адпаведаючымі найбольш пэдантычным вымогам просодіі, у выпушчэным у сьвет томіку вершоў Богдановіча («Вянок», Вільня, 1913 г.) бачым цэлы рад старых, мала ўжываных пэнтамэтроў, зграбные трыолеты, вельмі музыкальные рондо, октаву, тэрцыны і т. п. Здаецца, бытцым гэтак паэт хацеў давясьці гібкасьці і багацьця роднай мовы, дый гэтаго знаменіта давёў.

Аднак, багацьце форм верша Богдановіча становіць ня толькі мэту, але і патрэбу: яно адпаведае незвычайнаму багацьцю перэжываньнёў — перэжываньнёў, каторые, пры сваей глыбіні, маюць характэр агульналюдзкі. Гэта нічога, што паэт з любасьцю выбірае матывы родные—беларускіе: у іх ён заўсёды ўмее знайсьці аснаўны агульналюдзкі момэнт. Яго верш гэтак сама гаворыць беларусу, як і чужынцу,—падобне як музыка вялікаго маскоўскаго композытара, Чайкоўскаго, карыстаўшагося матывамі свайго народу, роўна прамаўляе да душы кож-

ЛЮГАНО. «Secolo» даносіць, што **саюзьнікі прынялі запрошэньне** расейскага ураду **на конфэрэнцію** дзеля перэгавораў **аб міры.**

БУДАПЭШТ. Імператар Кароль загадаў улажыць міністэрство гр. Эстэргазі. Ен маніцца правясьці рэформу выбарнага права ў дэмократычным духу.

ПАРЫЖ. Газэты даносяць, што па ўсей Франціі ідзе магутная агітація за згоду, каторая асабліва ў арміі знаходзіць добры грунт.

# Рэволюція у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі ходзяць чуткі, што **орыгіналы тайных умоў** між Расеей і саюзьнікамі ў часі міністэрства Мілюкова ўзяты з архівоў і **прапалі.** Паводлуг думкі расейскіх соцыалістоў, гэта зрабіла адна с саюзных дзержаў, якая не хацела дапусьціць апублікаваньня тых дакумэнтоў, бо яны выкрылі-бы, што саюзьнікі — вінавайцы сусьветнай вайны.

ШТОКГОЛЬМ. Сільнае ўражэньне вызвала заява міністра сельскай гаспадаркі, **Чэрнова,** аб **стрыманьні ваенных опэрацій і сэпаратным дачэсным замірэньні.**

«Бірж. Вед.» пішуць, што выпуск крэдытак на 2 мільярды паказвае, **што саюзьнікі ня хочуць больш паддзержываць Расею грашыма.**

КОПЭНГАГА Большая часць членоў пецярбурскай рады раб. і салд. стаіць за **мір той-час,** нават каліб з гэтай прычыны прышлося разыйсьціся с саюзьнікамі. У найбліжэйшым часі ждуць новаго цяжнога перэвароту, каторы скіне тымчасовы урад і установіць чыста соцыалістычнае правіцельство.

Рада раб. і салд. пастанавіла ўчыніць крокі дзеля замены расейскіх палітычных эмігрантоў, якіе знаходзяцца ў Нямеччыне, на нямецкіх цывільных палонных у Расеі. Ёсць надзея, што гэта падтрымаюць заграгічные соцыалістычные організаціі.

КОПЭНГАГА. Габінэт Керэнскаго удзержыцца, або ўпадзе залежне ад таго, **як саюзьнікі аднясуцца** да яго прэдлажэньня прыступіць да **падгатоўкі міра.** Небаспека—ў тым, што саюзьнікі ждуць ешчэ ад Расеі палітыкі, каторая заўсёды была шкодна яе інтэрэсам. Лёс ня толькі расейскай дэмократіі, але і расейска-англіцкіх зносін развяжэцца ў найбліжэйшых тыднях.

ЛОНДОН. Дэпутат Ніжняй Палаты, Кін, зрабіў свайму ураду запрос, чы і новы расейскі урад прыстаў да лондонскай умовы, паводлуг каторай усе саюзьнікі могуць мірыцца толькі ўсе разам. На гэта дадзен адказ, што не.

КОПЭНГАГА. Злучэные Штаты паслалі Расеі нідаўна **тайную ноту,** жадаючы за вялікшую пазыку заверэньня, што Расея ня зробіць сэпаратнаго міра і што яна пачне нанова наступленьне на ўсіх фронтах.

ЛОНДОН. «Morning Post» пішэ, што **расейскі урад даслоўна захоплен шалам.**

ПЕЦЯРБУРГ Палажэньне тымчасоваго ураду сур'ёзна скранулося. У найбліжэйшай будучыне **ждуць адстаўкі ураду.**

У новы урад войдзе рад новых членоў соцыалістоў. Чы Керэнскій астанецца ў ім, невядома.

ЛЮГАНО. „Corr. della Sera" даносіць с Пецярбурга аб спадзеваным у скорым часі **упадку коаліцыйнаго ураду.**

Сьледам за адстаўкай Коновалова **ждуць адстаўкі** міністра заграгічных спраў, Тэрэшчэнкі. Коновалов і Тэрэшчэнко належаць да найбольш левых с паміж буржуазыйных партый. Палажэньне самаго праваго між міністрамі Львова становіцца ўсё болей трудным. Клясовае змаганьне даходзіць усё вялікшай меры. Соцыалісты ўсё болей нападаюць на ваеннаго міністра Керэнскаго. Прэдстаўнік «большэвікоў» у радзе раб. і салд. дамагаўся, каб быў назначэн кантроль над яго чынасьцямі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Расейскі **урад зменіцца,** бадай, ешчэ ў гэтым тыдні.

У Пецярбурзі ешчэ даволі верных войск, каб змагацца з непамернымі дамаганьнямі.

7 чэрвеня адбылося першае заседаньне спэцыальнай камісіі дзеля выработкі закона аб выбарах у устаноўчы сэйм.

ПЕЦЯРБУРГ. (П Т.А.). Генэрал **Гурко,** глаўнакамандуючый палудзенна заходнім фронтам, **падаўся у адстаўку.**

ПЕЦЯРБУРГ. Ваенны міністэр Керэнскій, на моцы свaей забароны афіцэрам і генэралам прасіць адстаўкі, **выдаліў генэрала Гурко** за яго просьбу аб адстаўцы са становішча глаўнакамандуючаго палудзенна-заходнімі арміямі і назначыў за начальніка аднэй дывізіі.

На Керэнскаго ізноў востра нападаюць яго ворагі. «Нов. Жизнь» с прычыны яго жаданьня новаго наступленьня пішэ: „Керэнскій прызывае мільёны расейцоў аддаць сваё жыцьцё, заяўляючы, што ён клічэ іх да змаганьня за волю".

Член партыі кадэтоў, Маклаков назначаецца за расейскаго пасла ў Парыжы.

**Графіня Паніна,** вядомая сваей дабрачыннасьцю і заслугамі пры організаціі чэлавекалюбных таварыств, назначэна **за памочніка міністра** дабрачынных спраў.

ШТОКГОЛЬМ. З Апаранды даносяць, што ў **Пецярбурзі** ізноў адбыліся **сур'ёзные разрухі.** Інтэлігенція у страху пакідае место.

У Іркуцку адбыліся падгатавіцельные нарады дзеля выработкі **аўтономнай констытуціі для Сібіру.**

У Чыце галава места з усей местовай управай і часьцю радных выехалі нет ведама куды, баючыся анархістоў.

У Красноярску развеваюцца чысьленые чорные знамёны з надпісамі: „**Ніхай жыве коммуна! Даволі вайны!**"

ПЕЦЯРБУРГ. **11.000 аружных анархістоў** с чорнымі знамёнамі у апошніх днях устроілі чатыры дэмонстраціі на вуліцах. Баяцца сур'ёзных разрухоў на Тройцу.

Пецярбурскіе фабрыканты заявілі, што яны ня могуць плаціць работнікам вымаганай платы і лепш пазакрываюць фабрыкі.

Спажыўны крызіс узрастае. Шмат людзей праводзіць перад крамамі цэлую ноч на прынесеных матэрацах.

КОПЭНГАГА. **Забастоўка** ў расейскіх **ваенных фабрыках** незвычайна шырыцца. У Пецярбурзі бастуюць 36 фабрык, у Маскве—67, у Одэссі—28, у Ростове—35, у Кіеві—8, у Кацерынославі—14.

БАКУ. Усе работнікі на газавых промыслах аб'явілі забастоўку с прычыны адмовы павялічыць ім плату. Падпалены некалькі крыніц газы.

КІЕЎ. **3.000 салдатоў,** вярнуўшыхся с фронту, у белы дзень **пачалі рабаваць.** Узняліся бітвы на вуліцах.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). **4 палкі** сёмай арміі **збунтаваліся.** Кіраўнікоў аддалі пад ваенны суд.

ШТОКГОЛЬМ. Есць чуткі, што расейскіе салдаты на Каўказі **вырэзалі многа магомэтан** с прычыны чутак, бытцым магомэтане маняцца зрабіць паўстаньне проці расейскаго правіцельства

ШТОКГОЛЬМ. На з'ездзі партыі кадэтоў Гронскій здаў справу са сваей падарожы на фронт. Паводлуг яго слоў, вельмі пацярпела павага афіцэрства.

ШТОКГОЛЬМ. Як даносяць с Пецярбурга, генэралу **Рузскаму** ізноў **дадуць каманду** над групай арміі.

ЛЮГАНО. Як даносяць с Салонік, расейскіе войскі на Салоніцкім фронці з невядомых прычын узяты с фронту.

МАСКВА. Міністэр Шынгарёв заявіў тут на з'ездзі, што **крызіс у справі страваваньня** грозіць усяму гаспадарчаму жыцьцю Расеі. Дзержаўная касса—пустая, і народ ня хочэ плаціць новых падаткоў. Мо' прыдзецца на нейкі час прыпыніць выплаты Нехватае ня толькі спажыўных прадуктоў, але і сырых матэр'ялоў.

КРОНШТАДТ. Міністры Цэрэтэлі і Скобелев вялі тут перэгаворы з мейсцовым спаўніцельным камітэтам, каторы згодзіўся прызнаць, што тымчасовы урад мае правіцельственую ўласць над усей рэволюцыйнай Расеей.

КРОНШТАДТ. Рада раб. і салд. заявіла тымчасоваму ураду:

Кронштацкая рада раб і салд. стаіць на грунці рэзолюцій з 29 мая і 3 чэрвеня, паводлуг каторых яна становіць ядыную правамоцную ўласць у Кронштаці.

ПЕЦЯРБУРГ. Пасьля заявы кронштацкай рады раб. і салд. тымчасовы урад усемі галасамі пастанавіў учыніць самые становучые крокі дзеля развязкі кронштацкай справы. У сваей адозве да жыхароў Кронштату тымчасовы урад загадывае без ніякай спорікі спаўняць усе загады ураду.

---

наго чэлавека, незалежне ад яго нацыянальнасьці. Бо Максім Богдановіч не фотографуе жыцьця, а нанова перэтварае яго ў сваей чуткай, далікатнай і асабліва інтэлігентнай душы.

Варункі жыцьця Богдановіча, закінутаго ў далёкую чужыну, а ў першы чарод—хвароба (зачаткі сухотаў), нішчучая яго мaлады організм, прыдалі асаблівы тон паэзіі яго.

Не кукуй ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажэш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары:
Бо ня тое сьведчыць маё сэрцэ,
Грудзі хворые мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажэ, што нядоўга пражыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закукуй, як у бары!

Так прамаўляе ў ім слабасць, хвароба. Сільных, моцных тонаў не пачуеш у яго. Наадварот: Богдановіч любуецца ў тонах далікатных, гобэленавых; ён ловіць трудна ўлавімые, але заўсёды красамоўные адценкі, міма каторых людзі з грубой, чорствай душой праходзяць не звертаючы ніякай увагі.

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блеклы, высахшы лісток.
— Праглядзіце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, сьвежые калісьці,
Думак шчырых і чуцьця!

—такімі славамі характэрызуе песьняр свой «Вянок» у прадмове да яго.

Наагул, творы Богдановіча—гэта чыстая паэзія, без жаданьня каго-колечы павучаць, без якіх-будзь староннiх тэндэнцій. Песьняр самае сваё творчэство ўважае за службу роднаму народу. Выбіраючы беларускіе матывы, ён затрымліваецца на іх не затым, што яны—родные, а затым, што ў іх ёсць неадкрытые дагэтуль скарбы хараства. Хараство гэтае паэт знаходзіць асабліва ў народнай веры ў «зачарованае царство»—асобны сьвет вадзянікоў, русалак, лясуноў; знаходзіць яго і ў даўнай, прызабытай мінуўшчыне беларусоў, прыадкрываючы старые пісьмёны летапісей і псалтыроў, жывымі хварбамі малюючы момэнты даўно памершых дзён.

Дзеля прыкладу падаем тут верш Богдановіча «Слуцкіе ткачыхі» с цыклю «Старая Беларусь»:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольные, узяты
Ткаць залатые паясы
І цягам доўгіе часіны,
Дзявочые забыўшы сны,
Сваe шырокіе тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе небо з-за вакна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцьвіла весна,
Дзе блішчэ збожжэ ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі,
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука
Замест пэрсідзкаго узора
Цьвяток радзімы васілька.

Апрыч дробных вершоў—праўдзівых жывых красак, з якіх сплецен яго «Вянок», Максім Богдановіч у апошніх перад вайной часах пачаў пісаць вялікшые рэчы—поэмы. Але з гэтай старaной творчасьці яго мы ешчэ мала знаёмы. І ўсё-ж такі можна сьмела сказаць, што літэратурные здабыткі песьняра, якіе мы пазналі ў першые гады яго працы (вершы і паэтыцкая проза—«Музыка» і інш.), паставілі імя Максіма Богдановіча ў гісторыі развіцьця беларускай літэратуры на пачэснае мейсцо.

**Антон Новіна.**

